*Антановіч просіць большай павагі да прэзідэнта і «ўсіх нас» (стар. 2)*
*Выставу «Пагоні» падрэзалі (стар. 6)*

# СВАБОДА

Год заснавання 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік і выдавец Павел Жук
Наклад 90.000
Адрас рэдакцыі:
220088, Мінск, вул.Іванаўская, 56
Тэл./факс 2 362 441

Пятніца, 28 сакавіка 1997 г. | № 34 | Кошт свабодны

## Пасол ЗША Кенэт Ялавіц адклікаsuccessfully

**Пра гэта паведаміў 25 сакавіка выконваючы абавязкі прэс-сакратара Дзяржддэпартамента ЗША Джон Дзінгер. Дата вяртання сп.Ялавіца ў Беларусь не вызначаная.**

Дзінгер таксама паведаміў, што амерыканскі дыпламат Серж Аляксандраў ужо пакінуў Беларусь. Пасля затрымання Аляксандрава падчас апазіцыйнага мітынгу беларускія ўлады патрабавалі ягонага ад'езду на працягу 24 гадзінаў, адначасова абвінавацiўшы ў шпіянажы па заданні Цэнтральнага разведвальнага ўпраўлення ЗША. Пасольства ЗША заявіла, што Аляксандраў выконваў звычайныя дыпламатычныя функцыі, назіраючы за акцыяй пратэсту, і назвала дзеянні беларускіх уладаў *«беспадстаўнымі і неапраўданымі»*.

*«Мы распачнем адэкватныя захады ў адказ на высылку Аляксандрава, аб якіх, магчыма, хутка аб'явім,* — сказаў Дзінгер. — *Мы разглядаем усе магчымыя варыянты»*. Адзіным з такіх варыянтаў, па ягоных словах, з'яўляецца высылка беларускага дыплamata, акрэдытаванага ў Злучаных Штатах.

Высылка Аляксандрава, па сцвярджэнні Дзінгера, з'яўляецца *«найбольш абуральным індыдэнтам такога роду за апошнія два тыдні»*. Ён нагадаў, што 14 сакавіка былі затрыманыя двое грамадзянаў ЗША. Яшчэ аднаму грамадзяніну ЗША, выканаўчаму дырэктару аддзялення Фонду Сораса, было адмоўлена ва ўездзе ў Беларусь і прад'яўлена абвінавачанне ў падтрымцы тых сілаў у Беларусі, якія настроеныя апазіцыйна да прэзідэнта А.Лукашэнкі.

*USIA*

*P.S. Учора раніцай Кенэт Ялавіц вылецеў з Мінска ў Вашынгтон праз Вільню.*

## Амерыка дала адказ

**У сераду, 26 сакавіка, улады ЗША аб'явілі персонай нон грата першага сакратара беларускага пасольства ў Вашынгтоне Уладзіміра Грамыку.**

У прэс-службе беларускага міністэрства замежных справаў гэты інцыдэнт ахарактарызавалі «крокам у адказ». У МЗС сказалі, што Уладзімір Грамыка займаўся консульскімі пытаннямі і працаваў у Вашынгтоне прыкладна год.

Выконваючы абавязкі прэс-сакратара Дзяржддэпартамента ЗША Джон Дзінгер заявіў, што Грамыка высылаецца *«у сувязі з неабаснаваным і неапраўданым выдварэннем 24 сакавіка першага сакратара пасольства ЗША ў Мінску Сержа Аляксандрава»*. На працягу 24 гадзінаў Грамыка павінен пакінуць Злучаныя Штаты, хаця ягоная сям'я будзе мець дадатковы час для выезду. Джон Дзінгер сказаў, што Злучаныя Штаты *«сур'ёзна занепакоеныя нарастальным аўтарытарызмам у Беларусі»*.

Новапрызначаны пасол Беларусі ў ЗША Валерый Цэпкала, які пасля адпачынку накіраваўся на свае новае месца працы, вымушаны быў вярнуцца ў Мінск з паўдарогі. У Франкфурце-на-Майне яму было загадана адкласці палёт у Вашынгтон і вяртацца ў Мінск.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Пазьняк збіраецца вярнуцца

**Як паведаміў намеснік старшыні БНФ Вінцук Вячорка, Зянон Пазьняк на гэтым тыдні быў у Вільні, дзе меў сустрэчу са спікерам Сейма Літвы Вітаўтасам Ландсбергісам.**

Па словах В.Вячоркі, Зянон Пазьняк у бліжэйшы час мае намер вярнуцца ў Беларусь. На думку кіраўніцтва БНФ, на прыняцце Пазьняком такога рашэння паўплывала спыненне беларускай пракуратурай крымінальнай справы *«па фактах парушэння грамадскага парадку ў Мінску 24 сакавіка і 26 красавіка 1996 года»*.

**А.Н.**

## З'ехаў з глузду?

**Некалькі чалавек з бліжэйшага атачэння Лукашэнкі паведамілі кіраўніцтву БНФ, што апошнім часам прэзідэнт «паводзіць сябе неадэкватна».**

Аб гэтым паведаміў у сераду на прэс-канферэнцыі намеснік старшыні Народнага фронту Вінцук Вячорка. Па ягоных словах, паплечнікі Лукашэнкі занепакоеныя сваім лёсам і гэтая занепакоенасць прымусіла іх выйсці на кантакт з апазіцыяй. У прыватнасці, яны сцвярджаюць, што ўжо на працягу некалькіх месяцаў Лукашэнка, не раючыся са сваімі чыноўнікамі, прымае рашэнні, ад якіх церпіць імідж краіны на міжнароднай арэне. Гэта — разгоны мірных маніфестацый, рэпрэсіі супраць лідэраў апазіцыі, высылка з Беларусі выканаўчага дырэктара фонду Сораса Пітэра Берна і першага сакратара амбасады ЗША Сержа Аляксандрава, а таксама пазбаўленне акрэдытацыі карэспандэнта НТВ Аляксандра Ступнікава.

У сувязі з гэтым кіраўніцтва БНФ прыняло зварот да міжнароднай грамадскасці, у якім прапануе стварыць медыцынскую камісію для аседчання стану псіхічнага здароўя А.Лукашэнкі. *«Аб'ектыўная экспертыза магла б перадухіліць наступствы далейшага кіравання гэтага чалавека, небяспечныя для краіны і ў цэлым для рэгіёну»,* — гаворыцца ў заяве.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Лукашэнка хоча пакіраваць Расіяй

**Плануецца, што 2 красавіка ў Маскве высадзіцца атрад беларускіх інтэгратараў на чале з А.Лукашэнкам.**

Чакаецца, што прэзідэнты Ельцын і Лукашэнка падпішуць «Статут Саюза Беларусі і Расіі». Праўда, той праект, які паступіў у Крэмль з Мінска, маскоўскія палітыкі і аналітыкі лічаць непрымальным для Расіі, паколькі ён дае Лукашэнку тэарэтычную магчымасць «пакіраваць» Расіяй. Масква падрыхтавала свой варыянт статуту. Што ў выніку атрымаецца — мы паведамім у наступным нумары.



*На здымку: народны варыянт расійска-беларускай інтэграцыі.*

## Грошы для Расіі

**Учора рабочыя Мінска пачалі збор сродкаў для расійскага пралетарыята.**

27 сакавіка каля прахадных дзевяці самых буйных прадпрыемстваў сталіцы былі выстаўленыя пікеты. У спецыяльныя скрыні людзі кідалі свае «зайцы», каб хоць неяк падтрымаць рабочых Расіі, якія, як сведчаць расійскія сродкі масавай інфармацыі, па паўгода не атрымліваюць зарплату. Пікетчыкі такім чынам выказалі салідарнасць з удзельнікамі агульнарасійскай стачкі, у якой прынялі ўдзел каля 16-17 млн. чалавек.

Арганізатарам пікетаў у Мінску стаў гарадскі гарkam камуністаў (ПКБ — партыі Калякіна-Новікава).

**В.В.**

## Карпенка галадае, а Знаўца зноў пасадзілі

**Працягваюцца рэпрэсіі супраць апазіцыйных палітыкаў.**

У аўторак дэпутата ВС Паўла Знаўца, які быў асуджаны на 5 сутак арышту за ўдзел у студэнцкай акцыі пратэсту, міліцыя забрала з ізалятара і даставіла ў суд Маскоўскага раёну Мінска, які пакараў дэпутата штрафам у памеры 13 мільёнаў рублёў і дадатковымі 5 суткамі арышту.

З'явіліся ў беларускай судовай практыцы і арыгінальныя навацыі — суды пачалі выносіць завочныя прыгаворы. З гэтай прычыны вымушаны хавацца адзін з лідэраў БНФ Лявон Баршчэўскі, якога Цэнтральны райсуд сталіцы завочна асудзіў на 10 сутак арышту, а суд Маскоўскага раёну аштрафаваў на 500 тысяч рублёў. Міліцыя шукае і сакратара ўправы БНФ Вячаслава Сіўчыка, таксама завочна аштрафаванага Цэнтральным райсудом на 260 тысяч.

У бальнічнай палаце трымае галадоўку намеснік старшыні ВС Генадзь Карпенка. Уваход у палату пастаянна сцерагуць некалькі супрацоўнікаў службы аховы прэзідэнта. Як паведаміла жонка сп.Карпенкі, яе муж быў дастаўлены ў шпіталь з камеры ізалятара часовага затрымання. Карпенку абвінавачваюць у парушэнні грамадскага парадку падчас шэсця апазіцыі ў Дзень незалежнасці БНР. Суд над ім запланаваны на 1 красавіка.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Нафтавыя клопаты

**Рэзка скараціўся аб'ём перапрацоўкі нафты на Мазырскім і Наваполацкім заводах.**

Як паведаміла кампетэнтная крыніца ва ўрадзе, пастаўкі расійскай нафты ў Беларусь у гэтым годзе склалі толькі 85,5% (2824,5 тысяч тон) да аналагічнага перыяду мінулага года.

Як тлумачаць спецыялісты, расійскія нафтавыя кампаніі «ЛУКойл» і «Юкос» рэзка скарацілі пастаўкі нафты з-за невыканання беларускім бокам абавязацельстваў, прадугледжаных пагадненнем паміж урадам Беларусі і згаданымі кампаніямі, якое было заключана ў снежні 1995 г. Гэтым пагадненнем, у прыватнасці, прадугледжвалася прадастаўленне кампаніям падатковых ільготаў, а таксама іх удзел у акцыянаванні ВА «Нафтан».

*БелаПАН*

***ВЯРХОЎНЫ САВЕТ***

## Ельцын і Клінтан – гаранты беларускай незалежнасці?

З неафіцыйных крыніцаў стала вядома, што спецыяльная камісія Вярхоўнага Савета па прававой ацэнцы парушэнняў Канстытуцыі і законаў прэзідэнтам Лукашэнкам, якая была створана два месяцы таму і ўзначальваецца дэпутатам Віктарам Ганчаром, перадала ў Прэзідыум ВС рабочы варыянт свайго заключэння.

Гэтае заключэнне пакуль што не кранае злоўжыванняў у фінансавай сферы ці іншых бакоў дзейнасці Лукашэнкі, што мяркуецца дадаць у бліжэйшы час. На 62-х старонках зроблены юрыдычны аналіз усіх незаконных указаў і іншых проціпраўных дзеянняў прэзідэнта, з якога вынікае, што Лукашэнка захапіў уладу неканстытуцыйным шляхам (гэта падпадае пад арт. $61^1$ Крымінальнага кодэксу).

Аднак на разгляд Вярхоўнага Савета гэтае пытанне не выносілася, паколькі канчатковага варыянта заключэння яшчэ няма. На паседжанні 26 сакавіка дэпутаты займаліся пераважна другараднымі (у сённяшніх умовах) пытаннямі. Камуністка Алена Скрыган зрабіла даклад «Крызіс сістэмы сацыяльнай абароны насельніцтва і меры па яе аднаўленні», у якім сцвярджала (і Вярхоўны Савет падтрымаў яе адпаведнай пастановаю), што ўлады недапушчальна скарацілі сацыяльныя гарантыя, і што вялікі шэраг сацыяльных праграмаў можна рэалізаваць, калі скарыстаць лукашэнкаўска-ціцянкоўскую «чорную касу» і антызаконныя пазабюджэтныя фонды. Праўда, фразы А.Скрыган накшталт *«неабходна вярнуць ранейшую сістэму сацыяльнай абароны, якая давала чалавеку ўпэўненасць у заўтрашнім дні»* выклікалі скептычныя ўсмешкі шмат у каго ў зале.

Дэпутаты падтрымалі ідэю Мечыслава Грыба, які прапанаваў накіраваць зварот да старшыні АБСЕ Н.Петэрсана з просьбаю прыслаць у нашую краіну групу экспертаў па правах чалавека. Па словах Анатоля Лябедзькі, дэлегацыя на чале з асабістым прадстаўніком старшыні АБСЕ павінна была прыехаць у Беларусь, але візіт быў сарваны, паколькі Лукашэнка загадзя адмовіў дэлегацыі ў магчымасці сустрэцца з апазіцыяй.

Па прапанове А.Лябедзькі ВС прыняў пастанову, якой даручыў спікеру С.Шарэцкаму звярнуцца да Б.Ельцына, Б.Клінтана і Дж.Мэйджара з прапановай пацвердзіць «Мемарандум аб гарантыях бяспекі Беларусі», які згаданыя дзяржаўныя лідэры падпісалі 5 снежня 1994 г. у Будапешце на саміце АБСЕ. Кіраўнікі трох дзяржаваў абавязаліся быць гарантамі тэрытарыяльнай цэласнасці і палітычнай незалежнасці Беларусі.

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**

## КДБ вярнулася ў Лунінец

**У Лунінцы, райцэнтры Брэсцкай вобласці, аднавілі раённае аддзяленне КДБ.**

СВАБОДА раней паведамляла, што ў мінулым годзе структуру дзяржбяспекі там зліквідавалі, бо знікла неабходнасць у яе існаванні. Не прайшло і паўгода, як раённае аддзяленне КДБ ізноў пачало дзейнічаць у Лунінцы. Мясцовай службе ДАІ, якая заняла будынак камітэта, давялося пацясніцца. Праўда, штат КДБ пакуль зусім невялікі — адзін супрацоўнік, вопытны контрразведчык Віктар Дмітронак. Як сказалі карэспандэнту СВАБОДЫ ў прэс-службе КДБ, аднаўленне раённага аддзялення ў Лунінцы выклікана *«аператыўнай неабходнасцю ў інтарэсах дзяржаўнай бяспекі»*.

**Анатоль МІРСКІ**

СВАБОДА
28 сакавіка 1997 г., № 34

# Тры кароткія гомельскія гісторыі

Добры дзень, паважаная СВАБОДА! Хачу расказаць пра тры сустрэчы з «новымі» беларусамі.

**Сустрэча 1.** Кожную раніцу, у любое надвор'е ў маршрутны аўтобус № 1, што ходзіць у нашым горадзе з 5-га мікраараёна, заходзяць у першыя дзверы дзве жанчыны. Адна — маладая, мажная, добра апранутая, а другая — старэнькая, згорбленая, у зрэбнай спадніцы, паркалёвым пінжачку. Выходзяць яны з аўтобуса ў буднія дні на рагу вуліцы, што вядзе да рынку, а па святах — каля царквы. Там маладая кабета пакідае старую да вечара, а вечарам забірае, і яны зноў садзяцца ў аўтобус. Так дачка водзіць сваю маці жабраваць.

**Сустрэча 2.** Быў цудоўны сонечны дзень, Грамніцы. У мяне ў кішэні ляжала 20 тыс. рублёў, у торбе — трохлітровы слоік, і я ішоў купіць малака. Трэба было прайсці паўз царкву. А там — безліч жабракоў. Спачатку галаве мільганула нешта зласлівае: «Ага, лайдакі!» Але я не мог ісці міма працягнутых рук і слёзных вачэй і ўжо зрабіў крок, каб збочыць і неяк абыйсці, як мне насуперак стала чалавечая постаць і я пачуў: «Падайце, Хрыста радзі!» Глянуў — яшчэ малады чалавек. А ён сказаў: «Што глядзіш? Я трэці дзень нічога не еў».

Не ведаю, чаму, я подбегам пайшоў ад яго прэч. Малако я купіў, толькі піць яго не мог.

**Сустрэча 3.** У аўтобусе жанчына-кандуктар патрабуе ад маладога мужчыны, каб купіў білет. Той выварочвае кішэні і паказвае, што ў яго толькі 500 рублёў, і просіць дазволіць яму праехаць два прыпынкі. Кандуктар няўмольная і на першым жа прыпынку літаральна выштурхоўвае яго з аўтобуса. Малады, гожы, ён неяк звяў, унурыў галаву ў плечы і пайшоў прэч. Здавалася б, што тут такога? А мне жудасна.

**Г.ЖЫГАЛКІН,**
*рабочы, г.Гомель*

# Ізноў вяртаюцца «цвёрдыя заданні»?

Адзін калгасны брыгадзір жаліўся мне, што прыехаў нейкі начальнік з раёна (справа была ў калгасе «1 Мая» Акцябрскага раёна Гомельскай вобласці) і дужа абураўся, што бульбу перабіраюць толькі пяць баб. «А дзе я вазьму болей?» — казаў брыгадзір. І працягвае: «Хіба што ў горадзе. У гарадох многа абібокаў. Трэба іх, — кажа мне, — сюды, у вёску». «Яны ж працаваць не стануць!» — запярэчыў яму я. «Як не дасі есці ды паставіш аўтаматчыкаў, дык нікуды не дзенуцца», — шчыра сказаў брыгадзір.

Сёлета мой знаёмы за месяц зарабіў у тым «1 Мая» 150.000 рублёў (г.зн. каля 6 долараў ЗША). За цэлы месяц! А па міжнародных нормах на аднаго «зэка» павінна выдаткоўвацца як мінімум дзевяць долараў.

У Светлагорскім раёне ў калгасе «Дуброва», як у 30-я гады, вяскоўцам ужо прызначылі «цвёрдае заданне»: здаць 800 літраў малака + цяля + апрацаваць участак буракоў — тады атрымаеш дзялку, каб накасіць сена для каровы. Куды ўжо далей?

З гэтай нагоды прыгадваю размову з адным пажылым суайчыннікам з недалёкай вёскі. Седзячы ў цяньку пад вольхаю, ён прызнаўся мне, што яму нямецкая акупацыя была нават лягчэйшая, чым савецкая воля. «Прыйдуць немцы ў вёску, зойдуць да старасты, папросяць яек. Стараста пакліча мужыка, той бярэ рэшата і пайшоў па хатах — хто яйка дасць, хто два, немцы і давольныя. А камуністам бульбу аддай, скуру ад кабана аддай, мяса здай, малако здай, масла здай, дый яшчэ грошай дай. Ды яшчэ ў калгас схадзі на бясплатную працу». Вось вам і «светлая мінуўшчына».

**Мікалай БУСЕЛ,**
*в.Дуброва,*
*Светлагорскі раён*

# И это называется лукашизм

11 марта этого года в камере хранения на ст.Минск-Пассажирский на меня набросился и ранил бывший спецназовец. Причем набросился без какой-либо причины. Сначала он объяснял милиционерам, что вступился за женщин, которых я якобы оскорбил, чего не было. Но в отделении милиции все повернулось наоборот. В ход пошла «политика». Спецназовец утверждал, что я будто бы кричал: «Смерть Лукашенке!», а он встал на защиту законноизбранного президента.

С момента нападения спецназовца я чувствовал боль в спины и сообщил об этом милиции. Я попросил разрешения раздеться и осмотреть рану. «Сидеть!» — рявкнул милиционер (по-видимому, он имел некоторое отношение к служебному собаководству). Пришлось подчиниться из опасения провокации со стороны милиции и сидеть смирно.

Когда пришел следователь и стал меня допрашивать, я повторил, что у меня рана и спина мокрая от крови. Только тогда я получил наконец разрешение снять куртку, жакет и рубашку, которые были пробиты режущим инструментом, а милиция была вынуждена вызвать врача.

Оставим в стороне действия врача, которые я лично считаю противоправными. Но совершенно очевидно, что милиционеры изо всех сил старались обелить своего коллегу спецназовца, который в сущности является преступником. Вот и получается, что мнимая «честь мундира» для них важнее закона. К тому же они явно пытались «пришить» мне оскорбления в адрес президента. И это все называется — лукашизм.

**В.А.ЧУБАКОВ,**
*г.Минск*

# Судья, оправдавший свою фамилию

В последнее время на страницах некоторых газет снова замелькала фамилия бывшего председателя Конституционного суда В.Тихини. Он делает неуклюжие попытки обелить себя за тот сговор с режимом А.Лукашенко, который привел к установлению в республике ненавистной диктатуры.

Чувствуя свою вину, Тихиня с постоянством обреченного успокаивает себя и старается вызвать к себе снисхождение: мол, он хотел сделать *как лучше*.

Да, по воле судьбы именно от Тихини в тот памятный ноябрьский день 1996 года зависела судьба 10-миллионного белорусского народа. И если бы Валерий Гурьевич не струсил, не поддался на шантаж, угрозы или запугивание, не зачастил к президенту на полусогнутых, а проявил твердость и верность Закону и Конституции и вынес импичмент наглому и необразованному диктатору, — и сегодня у нашего народа была бы хорошая перспектива: жить со всеми соседями в мире и дружбе, строить новую жизнь в свободной и суверенной Беларуси, не опасаясь, что она снова попадет в лапы к «старшему брату».

Во многом из-за его нерешительности (а точнее, трусости) и произошло то, что мы сегодня переживаем. Впрочем, удивляться тут не приходится. Тихиня полностью оправдал свою фамилию — тихий, спокойный, мирный, нерешительный. И ждать или требовать от него геройского поступка было бы ошибкой. Она и случилась.

Именно за тот страх будет расплачиваться, видимо, не одно поколение белорусов.

**В.РОГОВИЧ**, *г.Минск*

# Об интеллекте правителя и мотивации к труду

Прочитал я в газете СВАБОДА письмо пенсионера Борисенко М.Д. «Ему некогда», о том, что Лукашенко, дескать, умнее оппозиции и ему некогда получать звания и диссертации потому, что он якобы «работает на народ», и что он на несколько голов умнее всех этих «профессоров».

Здесь дело не в диссертациях. «Соотношение умов» определилось не уровнем интеллекта, а способом подачи. Телеэфир и радио с их повсеместными, многочасовыми и бесплатными передачами стали прерогативой Лукашенко. А раз умеет много говорить — значит, «умный».

А о фразе «работает на народ» — отдельно. Мировой опыт свидетельствует, что такие факторы, как суммарный интеллект народа и интеллект лидера сами по себе не являются определяющими уровень темпов развития экономики, если нет главного условия — мотивации к труду. Этой-то мотивации для народа не может обеспечить наш президент. А может, его просто не интересует уровень жизни народа, может ему интереснее жить в окружении бедного народа? Ведь всё, в том числе и величие, познается в сравнении.

Какая может быть мотивация к труду в условиях отсутствия законности на всех уровнях? В условиях несоблюдения прав человека, коррупции, охоты на ведьм, непомерных военных расходов, безграмотной экономики, с бездействующим антимонопольным законодательством, без банкротств и банкротов. С налогами сверх всяких пределов, без гарантии для инвестиций и как следствие вообще без них. Без расширения частной собственности, позволяющей использовать новейшие технологии и начать выпуск конкурентноспособной продукции.

Так что Лукашенко вовсе не работает на народ. Он работает на себя. У него-то мотивация к труду есть — неограниченная власть и собственное величие.

**Д.М.ОКНЕСИРОВ,**
*пенсионер, г.Минск*

## *Радкі з лістоў*

На Дзень Канстытуцыі была на мітынгу, бачыла добрыя вочы людзей. Аднаго маладзенькага міліцыянта я запыталася, як ён мог пайсці на народ. Ён мне кляўся, што ён за нас, што іх проста сагналі ўсіх, а ён ніколі не падыме дубінкі. Другі, стары пень, колькі я ні прасіла, каб паглядзеў мне ў вочы, — не глянуў. Значыць, сумленне мучыць яго, значыць, ведае, што праўда не на іхнім баку. Значыць, жыве Беларусь! І настрой у мяне добры.

**А.ДРЫВЕНЬ,**
*г.Ашмяны*

Быў сведкам такога здарэння: у гарадскім аўтобусе едзе здаравенны міліцыянт, а побач, на заднім сядзенні, двое дзетак гадоў па восем ехалі са школы. Падыходзіць кандуктар і давай трэсці гэтых дзетак, каб яны набывалі білеты, а міліцыянта не чапае. Запытаўся я ў гэтай жанчыны, ці хіба гэты міліцыянт менш атрымлівае грошай за гэтых дзетак? Паглядзеў на мяне міліцыянт як на ворага народа, але, аднак, нічога не сказаў. Неўзабаве ён сышоў, але яшчэ раз азірнуўся на мяне.

**Уладзімір Фёдаравіч СТАНКЕВІЧ,**
*в.Старая Ятвезь,*
*Ваўкавыскі раён*

Вялікі, сардэчны дзякуй Вам за СВАБОДУ. Часта крадуць у мяне газету з паштовай скрыні, а я і радуюся, — значыць, патрэбная яна і іншым. Толькі грошай у іх няма, каб выпісаць: з'ядаюць рэферэндумы.

**ПУХОЎСКАЯ З.М.,**
*67 гадоў, г.Смаргонь*

Пусть президент не забывает, что Минск это не вся Беларусь. Я и мои сослуживцы по работе мысленно с теми, кто не боится «декрета № 5», штрафов, дубинок, и выходит на улицы столицы. А вообще надо знать историю. Наша история началась не с 1917 года, и это надо помнить.

**Ю.ГРИГОРЬЕВ,**
*27 лет, г.Светлогорск*

Лучше быть круглым сиротой, чем жить с таким «батькой».

**В.РОГОВИЧ,**
*г.Брест*

# Избавление от иллюзий

Владимир ДОРОХОВ

Сегодня оппозиция оказалось в положении, худшем чем Лукашенко после роспуска антикоррупционной комиссии и опечатывания служебного кабинета. Ничего страшного и непоправимого в этом малоприятном факте, конечно же, нет. Поражения в политике (если это не образ жизни) — вещь нормальная, из которой нет нужды делать вселенскую трагедию. Хуже, когда хронические неуспехи, кажущиеся закономерностью, приучают проигравших к мысли о собственном бессилии, порождая мощный комплекс неполноценности. Последний мешает здраво оценивать как свои действия, послужившие причинами раз за разом повторяющегося конфуза, так и слабые стороны противника. Место трезвого анализа начинают занимать пустое самоедство, иррациональный фатализм и глупые иллюзии. Иллюзии опасны вдвойне, поскольку создают искаженное восприятие окружающей действительности и, в итоге, приводят обратно к тому, вследствие чего и появились — к новым поражениям. Борьба с иллюзиями, в плен которых покуда погружена оппозиция, по моему мнению, первейшее требование времени. Остановимся на самых распространенных и живучих стереотипах политического бытия, дальнейшее эксплуатирование которых усугубит и без того тяжелое положение оппозиционеров.

## Заблуждение первое

***Президент проводит такую «неправильную» политику, поскольку она максимально ему сегодня выгодна. Как только для удержания власти потребуются либеральные реформы, он назавтра предстанет большим либералом, чем сам Хайек.***

Данное утверждение страдает глубокой внутренней противоречивостью. В политике, как и в сопротивлении материалов, гибкость возможна до определенных безопасных пределов, за гранями которых начинается процесс необратимого разрушения. Сами либеральные реформы (независимо от того, кем, под какими знаменами и с какой целью проводятся) имеют определенную мировоззренческую логику и социально-хозяйственную направленность — за счет свободы предпринимательства формируется средний класс, опора реформ, который, обустраивая свою жизнь, параллельно вытягивает за собой менее способных и разворотливых. Происходит постепенное разрушение социальной базы лукашенок и зюгановых, уменьшение числа бедных, недовольных и обманутых. Общество постепенно трансформируется из экстремально-революционного в скучно-нормальное. При налаженной спокойной жизни, где нет места битвам за урожай и всенародным селекторным совещаниям, личности пассионарные воспринимаются мелкобуржуазным большинством наподобие прокаженных. Их активно сторонятся даже в быту, не говоря уже о прочных защитных фильтрах демократии, отсекающих «сокрушителей устоев» еще на муниципальном уровне.

Можно долго спорить, являются ли Лукашенко и К° группой политических самоубийц, но даже если давать положительный ответ, врядли стоит ожидать акта суицида в столь экзотической упаковке — своими руками добровольно начать процесс постепенной передачи власти. Экономические реформации для них раносильны растянутому во времени однозначному самоуничтожению.

## Заблуждение второе

***Режим рухнет от ресурсного истощения, от невозможности наладить не только расширенное, но и простое воспроизводство ценностей, минимально необходимых для поддержания хотя бы самих структур власти и растущего аппарата подавления.***

Мне кажется, в подобные оптимистические сентенции не слишком верят даже их авторы. История с «Торгэкспо», фондом Эсамбаева и прочими криминально-коммерческими структурами, число которых, по словам самого президента, достигает двух десятков, убедительно свидетельствует об ином. Деньги на диктатуру охлоса найдутся всегда.

Когда-то на заре перестройки популярностью пользовалась байка об одном остроумном газетном объявлении: немедленно перейду на хозрасчет при условии аренды 1 кв.м. госграницы. Сейчас у шкловских «арендаторов» в полном распоряжении не только госграница, а вся страна. Заметим, что в ней все-таки еще сохранились прибыльные отрасли и предприятия, пусть таковых немного, но кому надо — хватит. Через границы западную и южную можно провезти все, что угодно. А граница восточная предусмотрительно ликвидирована, дабы спокойно переправлять на огромный российский рынок по демпинговым ценам завезенные в обход всех внутренних и двухсторонних договоренностей товары. Конечно, Россия тоже не лыком шита и такой халявы, как с «Торгэкспо», видимо, более не предвидится. Однако, будем откровенны: в принципе невозможно закрыть все «черные» каналы обогащения, ежели того желает высшая власть, для которой изыскание ресурсов — вопрос жизни и смерти.

## Заблуждение третье

***У измученного народа лопнет терпение и, вооружившись балканским опытом, он наконец-то сбросит с себя ярмо социал-мазохистских экспериментаторов.***

Во-первых, все стихийные выступления если где и происходят, то только лишь потому, что кем-то образом тщательно готовятся. Ныне у нас отсутствует налаженная подготовка, налицо лишь стремление показать решительное несогласие, не задумываясь при этом об эффективности самих акций. Все марши пустых кастрюль, молодежные и предпринимательские протесты, при глубоком уважении к их участникам и организаторам за активную гражданскую позицию, с т.зр. нанесения урона режиму — акции совершенно безрезультатные. Протест, если он не продуманное, массовое, рассчитанное на нужный эффект действие, даже вреден. Протестовать есть смысл тогда и только тогда, когда есть твердая уверенность, что итогом станут не только милицеские протоколы, денежные штрафы, разбитые носы и 15 суточные отсидки. Протест ради демонстрации самого факта протеста вреден не только потому, что контрпродуктивен по последствиям, он еще и обязательно способствует внутренней консолидации диктатуры, а раз за разом битых протестующих (за исключением профессиональных борцов с режимом, которых подавляющее меньшинство) наглядно убеждает в собственном бессилии и беззащитности и, напротив, в завидной крепости режима. На сегодня все еще нет ни настоящего политического продюсерства с прогнозируемостью акций, рефлексии властей и достигаемых результатов, ни потенциальной готовности широких слоев населения адекватно воспринять происходящее. Недовольство жизнью покуда не стало общим духом страны, объединительной идеей. Те же десятки тысяч, у которых нет более сил терпеть патологический государственный маразм, в глазах обывателя не народные герои, не благородные защитники всех угнетенных, а изгои, болтуны и шкурники.

Во-вторых, во внимание не берется различие в т.наз. пределах терпения. Надо ясно представлять число тех, у кого генетические страх и начальстволюбие никогда не будут побеждены желанием жить по-человечески. У деревни, большей части провинции и старшего поколения (независимо от места проживания) нижний предел терпения — война. Все прочие неудобства, как-то: высокие цены и мизерные пенсии, задержки зарплат и рост коммунальных платежей, холод в квартирах и т.п., даже в совокупности не дают рациональных реакций. Не стоит придавать слишком большое значение низкому уровню жизни. Белорусы давно рассчитывают только на себя, а на правительство, постоянно обманывающее и грабящее, окончательно махнули рукой. Единственное оставшееся требование к любой власти — не убивать — пока что соблюдает и Лукашенко. Так как массовых расстрелов и депортаций в обозримой перспективе не предвидится, то голодных и других бунтов ожидать не следует.




## Заблуждение четвертое

***Нас спасет просвещенный Запад.***

Самое большое, на что способно мировое сообщество — посочувствовать беднягам, вляпавшимся по доброй воле в опаснейшую игру с демократическими институтами без наличия крепких демократических традиций. Да, уже есть и еще будут резкие демарши западных стран. Да, в воздухе ощутимо запахло санкциями, но даже когда наступит их полная материализация, небо не упадет на президентскую резиденцию.

Запад, в лучшем случае, в состоянии максимально осложнить жизнь режиму, но не сменить его. Беларусь не станут пускать в приличное общество — не велика потеря, Лукашенко там никогда не присутствовал, поэтому и не в состоянии осознать значимость утраты. Натовских бомбежек не предвидится, «голубые каски» в районе Столбцов не появятся, «Бури в болоте» никто не планирует. Экономические и политические санкции же сами по себе — палка о двух одинаково больно бьющих концах. Часто их следствием оказываются вещи прямо противоположные от декларируемых. У коварных вождей бойкотируемых всегда отстается реальный шанс свалить вину за переживаемые трудности на головы бойкотирующих, что иногда приводит даже к упрочнению предаваемых анафеме цивилизованным миром варварских диктатур. К тому же Беларусь — отнюдь не Сингапур, наше благосостояние не сильно-то и зависит от международной торговли. Чувствуя за спиной молчаливую поддержку России, Лукашенко вряд ли станет сильно беспокоиться, даже если весь мир разорвет с ним дипломатические отношения. Западу, безусловно, очень неприятно, что есть такой противный гнойник прогрессирующего фашизма в Европе. Но ежели обитающих там вполне устраивает такое унизительное бытие — все просто разведут руками и постараются не замечать беларусский атавизм.

## Заблуждение пятое

***Россия нам поможет.***

Наверное, самые большие надежды ассоциировались с Москвой, вернее с теми остатками демократов, которые чудом уцелели в окружении Ельцина. Все их двусмысленные шаги, а заодно и собственную бездеятельность, красиво оправдывали: то Дума с коммунистами мешает, то президентские выборы требуют заигрывания с Лукашенко, то Западу нужно дать достойный отпор посредством интриг с интеграцией. Ну не может же не видеть Ельцин и К° очевидного — откровенного обхаживания Зюганова, наполеоновских планов, тотального уничтожения в Беларуси всего того, что в России неразрывно связано с его именем и что признается неоспоримыми заслугами — свобода прессы и хозяйственной деятельности, политический плюрализм и приватизация.

Произошла незаметная подмена понятий. Разница в восприятии Лукашенко оттуда и отсюда огромна. Кто он там? Последовательный проводник пророссийской политики. Для России Лукашенко весьма приятен — льстит имперскому самолюбию, добровольно выполняет то, чего от него хотят, а иногда и сверх того. Правда, такое удовольствие стоит денег — приходиться содержать сумасшедшую «экономику рыночного социализма», но игра, безусловно, стоит свеч. Разумеется, есть идеологические разногласия, векторы внутреннего развития двух стран прямо противоположны, однако их не следует абсолютизировать. Национальные интересы много важнее идеологических антагонизмов. СССР долгое время дружил с десятком полудиктаторских режимов, где идейно близких тамошних коммунистов местные вожди держали за решеткой. Так и Россия прекрасно совмещает на первый взгляд несовместимое. Ей не столь принципиальна важна демократия в Минске, которая и в Москве достаточно условна. Главное на нынешнем этапе — иметь здесь надежного союзника. Является ли на самом деле таковым Лукашенко — отдельный разговор, но ведь известно, что от добра добра не ищут, а лучшее — вечный враг хорошего.

Оппозиция, как умеет, пытается работать с Москвой, но пока совершенно безрезультатно. А там в пользу антилукашистов никто и пальцем не пошевельнет до тех пор, покуда твердо не убедиться в выгодности для российских интересов замены действующего режима. Такое убеждение еще не оформилось. Проблема, видимо, в гарантиях — сохранит ли новое демократическое правительство Беларуси позитивный курс в отношении России.

В дружеских компаниях после двухсот граммов меня всегда спрашивают: «Когда же, наконец, закончится нынешний идиотизм?» После такого обезоруживающего вопроса близких людей отшутиться, сославшись на пересыщенность и утомление поднятой темой, никак невозможно. Приходиться говорить правду. Дело не в надуманных сроках (таковые могут быть, как показывает новейшая история, длинной и в полвека), а в принципиальном подходе к решению трижды перезревшей проблемы реставрации цивилизации в стране. Как только антилукашисты начнут вести себя так как надо, а не так как им в данный момент удобно, необходимый эффект проявится чрезвычайно быстро. В противном случае остается пожать плечами и продолжать лицезреть нынешний самоубийственный театр абсурда. Жаль только, что наше общее место отнюдь не в партере зрительного зала, и чем закончится действие триллера не на сцене, а в реальной жизни, не знают ни искушенные сценаристы с режиссерами, ни марионеточные горе-герои, ни несчастные статисты из массовки.

*Материал подготовлен в рамках проекта НИСЭПИ «Формирование общественных лидеров в посткоммунистической Беларуси».*

